# НАВІНКІ

5 - 12 сьнежня 2002 №28(77) Кошт свабодны

# Любімец публікі клоўн Шурык

**У праграме:**
– таямнічае зьнікненьне палітыка з чорнага яшчыку
– расьпільваньне журналіста
– украшчэньне апазыцыі
– жарты, розыгрышы, забаўная лятарэя
– раздача прызоў ад «Белтрансгазу»

8-ы сэзон на арэне цырку

Сьпяшайцеся бачыць! Толькі адно прадстаўленьне!

На стар.4-5

## Увага: Конкурс!

**Перад вамі фрагмэнт малюнку, надрукаванага ў папярэднім №27 нашай газэты. Паглядзіце ўважліва:**



**Пытаньне: «ЯКОМУ МАЛЮНКУ НАЛЕЖЫЦЬ ГЭТЫ ФРАГМЭНТ?» Першыя 20 чытачоў, якія зьвяжуцца з рэдакцыяй і дадуць правільны адказ, атрымаюць прыз – 1 бутэльку піва. Умова – трэба выразаць і наклеіць фрагмэнт на сваё месца ў №27 і прад'явіць у рэдакцыі. Удачы! Сувязь праз тэл.: 8-0296-296-911.**

## Як разумЕць...

Выказваньне прэзыдэнта Расеі У.Пуціна на сустрэчы зь беларускім лідэрам у Валынскім: **«Расея гэтак многа аддала, што пытаньне аб «даваць» не стаіць. Цяпер мы будзем браць»?**

Учора

Ну што, Расея, давай рассоўвай ногі

Заўтра

Ну што ты, дурніца, ногі раскінула. Ты рот адкрывай

## Вяртаньне блуднага Краўчанкі

**Неспадзяванае зьнікненьне на днях пасла Беларусі ў Японіі Пятра Краўчанкі скончылася гэтак жа неспадзяваным знаходжаньнем гэтага беларускага дыплямата. «Сындром Ганчара-Завадзкага» на гэты раз даў прамашку. Краўчанка абверг інфармацыю, што нібыта ён клянчыў палітычны прытулак у пасольстве ЗША ў Токіо, аднак не патлумачыў, дзе ён бадзяўся ўвесь гэты час, паставіўшы на вушы ўсю Беларусь.**

**Адразу ж па вяртаньні ў інфармацыйную прастору, былы амбасадар заявіў, што мае ў кішэні тры «палітычныя сэнсацыі», якія нібыта мусяць скасіць з капытоў відаўшых віды апазыцыянэраў. Намеры Краўчанкі пагуляцца на паляне беларускай апазыцыі пацьвярджае яшчэ й той факт, што ён нечакана заявіў пра жаданьне выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году. Пасьля такіх опусаў сапраўды хочацца задаць пытаньне ў лоб: дык дзе ж сп.Краўчанка гэтак абпіўся сакэ, каб рабіць такія сьмелыя заявы.**

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ НА СТАР.8**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 05.12.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 336

## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Якая ВНУ атрымала свой уласны герб?**
А) БДУ
Б) Акадэмія кіраваньня
В) Акадэмія міліцыі

**2. Які часопіс узнаўляе свой выхад пасьля перапынку?**
А) *Кур'ер*
Б) *Дылер*
В) *Пастаўшчык*

**3. Абвешчаны конкурс на стварэньне гімну фэдэрацыі:**
А) Футболу
Б) Прафсаюзаў
В) Анархістаў

**4. У мэтах эканоміі цяпла тэмпература ў навучальных установах сталіцы у пазанавучальны час будзе роўная:**
А) 12 градусаў
Б) 40 градусаў
В) 100 градусаў

**5. Па словах міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава за бягучы год было прыцягнута да адказнасьці 6 тысячаў:**
А) Чыноўнікаў
Б) Злачынцаў
В) Міліцыянэраў

**6. Хто застаўся крайнім і пазбавіўся працы ў сувязі зь нявыдачай візы ў Чэхію А.Лукашэнку?**
А) Уладзімір Бельскі, амбасадар
Б) Вацлаў Гавэл
В) Джордж Буш

**7. Якое піва атрымала перамогу на міжнароднай выставе ў Маскве?**
А) Аліварыя «Золотое»
Б) Криница «Портер»
В) Крышталь-люкс

**8. Прэзыдэнтам чаго зьяўляецца І.Блатэр, зь якім сустрэнецца А.Лукашэнка?**
А) УЕФА
Б) ФІФА
В) НБА

**9. З чым павіншаваў А.Лукашэнка прэзыдэнта ААЭ шэйха Заіда бэн Султана Аль Нахаяна?**
А) З днём народзінаў
Б) З Новым Годам
В) З гадавінай утварэньня ААЭ

**10. Якое сьвята адзначыла сусьветная грамадзкасьць 2 сьнежня?**
А) Дзень інваліда
Б) Дзень хворага
В) Дзень здаровага

**11. Якая краіна заваявала ў Парыжы Кубак Дэвіса?**
А) Францыя
Б) Расея
В) Беларусь

**12. Зь якім сьвятам павіншаваў у чацьвер У.Пуцін усіх мусульманаў Расеі?**
А) Ураза-байрам
Б) Хэлаўін
В) Нараджэньня Хрыста

**13. Аляксандар Лукашэнка правёў у сераду сустрэчу з дэлегацыяй амэрыканскіх:**
А) Бізнэсмэнаў
Б) Кангрэсмэнаў
В) Супэрмэнаў

**14. ПП НС РБ прыняла закон «Аб дэкляраваньні фізычнымі асобамі...»:**
А) Даходаў
Б) Адыходаў
В) Прыходаў

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-А, 3-Б, 4-А, 5-В, 6-А, 7-Б, 8-Б, 9-В, 10-А, 11-Б, 12-А, 13-Б, 14-А

# Мэраў – у казарму

## *Нядбайныя начальнікі паслужаць Радзіме*

Насуперак абяцаньням астролягаў і палітыкаў, што зіма будзе кароткай і цёплай, халады, што ламанулі ў мінулыя выходныя, прымусілі пашчоўкаць зубамі і касьцямі не аднаго жыхара ўсходнеэўрапейскага рэгіёну, дзе традыцыйна заўсёды былі праблемы з падачай і зьберагаганьнем цеплавой энэргіі. Рамонт і своечасовая праверка гатоўнасьці цеплатрасы знаходзіліся ў ведаме кампэтэнтных асобаў, якія заставаліся крайнімі на выпадак нечаканых халадоў.

Вось старшыня Савету міністраў Крыму Сяргей Куніцын прапанаваў арыгінальны спосаб барацьбы з энэргетычным крызысам. У прамым эфіры мясцовай тэлекампаніі ён заявіў, што «мэр крымскага гораду Шчолкіна Віталій Дычук і ўсе супрацоўнікі мэрыі мужчынскага полу будуць прызваныя на службу ў войска за тое, што ня здолелі як сьлед падрыхтавацца да ацяпляльнага сэзону».

Гэта ня навіна для ўкраінскіх палітыкаў – былы прэм'ер Валерый Пуставойценка такім чынам выбіваў даўгі з буйных прадпрыемстваў – прымусова праводзіў вучэньні па грамадзянскай абароне, пакуль ня будуць пагашаныя ўсе даўгі прадпрыемстваў. І спосаб працаваў! Даўгі пагасілі, а пра Пуставойценку гаварылі з павагай, як пра вялікую палітычную фігуру.

Перайманьне досьведу таксама займела ўзьдзеяньне. У мінулы аўторак байцы МНС былі адкамандзіраваныя на рамонт цеплатрасы, а разам зь імі нерадзівыя мэр і ягоная каманда. Як доўга яны будуць служыць у гэткім «войску», пакуль цяжка сказаць. Відавочна, пакуль ня будуць вырашаныя ўсе праблемы ў рэгіёне. Мэтадам зацікавіліся і паўночна-ўсходнія суседзі. Ці ня варта ўзяць перадавы досьвед на ўзбраеньне беларусам? Цяплей ня стане, а народу – радасьць, калі нягеглы чыноўнік паўкалвае з карчагінскім шуфлям як Ленін на суботніку ў часы ваеннага камунізму ●

**Юрась Лужкоў**




# Хто за кім сочыць?

## Чым пагражае Беларусі ўступленьне Прыбалтыкі ў NATO



Пашырэньне NATO на ўсход – праблема, якую не ўздымае ў сваёй палітычнай праграме хіба толькі поўны лох. Беларусі яна тычыцца самым непасрэдным чынам. Мала таго, што на нядаўні саміт у Празе не пусьцілі нашага прэзыдэнта, дык лідэры паўночна-атлянтычнага альянсу вырашылі прыбраць да сваіх рук тры былыя савецкія рэспублікі. Літва, Латвія і Эстонія афіцыйна запрошаныя ўступіць у агрэсіўны вайсковы блёк. Плады гэтага супрацоўніцтва мы адчуваем на сваёй скуры ўжо зараз. Міністэрства абароны Латвіі прыняла рашэньне да лета будучага году ўсталяваць на ўсходзе краіны трохмерны вайсковы радар ТПС-117 для кантролю паветранай прасторы над Прыбалтыкай, а таксама заходняй часткай Расеі і нават над тэрыторыяй Беларусі.

Навошта латышам спатрэбілася сачыць за міралюбнай суседняй дзяржавай. Ці не для таго, каб потым перадаваць сакрэтныя зьвесткі пра сакрэтныя беларускія віды ўзбраеньня сваім саюзьнікам па NATO? Не пасьпее самалёт №1 з Аляксандрам Рыгорычам на борце ўзьляцець, каб зрабіць афіцыйны візыт на Блізкі Ўсход, а ў Вашынгтоне капіталісты ўжо ўсё ведаюць. З такім радарам ніякай дзяржаўнай тайны не схаваеш.

Беларусь заўсёды адкрыта заяўляла пра свой нэйтралітэт як у палітычнай, гэтак і ў вайсковай сфэрах. У сувязі з гэтым міністэрства замежных справаў павінна неадкладна накіраваць ноту пратэсту Латвіі і патрабаваць растлумачыць дзеяньні сваіх вайскоўцаў ●

**Валдзіс Пельш,**
ВАЙСКОВЫ АНАЛІТЫК

## *АльЯнс*

### Вераломства

**Што хаваць, усе хочуць у NATO.**
**Ня будзем крывіць душой – гэта так.**
**За сьпіной заходняга салдата**
**Адсядзецца ў час міжнацыянальных драк.**
**Але**
**Калі ў народу ёсьць заветная мроя,**
**Яму не патрэбная ніякая зброя!!!**
**Калі народ працуе так, каб дакрануцца да зорак,**
**Яму не да ўсякіх там нафтаразборак...**
**Калі народ богам абраны, калі ў народу дар,**
**Яму не патрэбны ніякі радар.**
**А**
**Што нарабілі чудзікі-латышы –**
**У NATO жадаюць, у NATO пайшлі.**
**А**
**Што нарабіў іх уладар –**
**Трохпамерны паставіў ваенны радар.**
**Цяпер у вёскі Атрушын**
**Некія вайсковыя вушы**
**Штодня, штоноч сачыць будуць за вадой і сушай.**
**Цяпер як на далонях паветранае пространства**
**Беларусі, Расеі і другіх гасударстваў.**
**Зноў няўжо латышы**
**Жадаюць вайны?**
**Здаецца мне, спадары вуаярысты,**
**Такое рабілі толькі нацысты!**

**Ярыла Пшанічны**

# *Журналіст, вы свабодны!*



Рональд Макдональд – сапраўдны сымбаль згуртаванасьці, адзінства і самаадданасьці ўсіх супрацоўнікаў беларускай службы Радыё «Свабода».

Барысаўскі камітэт абароны Бацькаўшчыны і Камітэт па вяртаньні Алеся Мікалайчанкі ў эфір Радыё «Свабода» выпусьціў адозву «да ўвагі слухачоў эфіру Радыё «Свабода». Аказваецца, гэты выбітны прадстаўнік другой старажытнай прафэсіі зволнены з працы па скарачэньні штатаў.

У якасьці прычыны звальненьня камітэт падае факт, што *«ў адміністрацыю Менскага бюро і Беларускай службы РС патрапілі людзі ад пэўных сілавых структураў»*, якія замоўчвалі *«асобныя зьявы, спароджаныя асобнымі рэаліямі»*, сярод якіх – *«цкаваньне апанэнтаў дыктатуры мэдычнымі сродкамі, катаваньне парадзіх у барысаўскіх радзільнях»* і г.д.

Дырэктар радыё «Свабода» Валянцін Жданко адмовіўся даваць камэнтары з нагоды звальненьня журналіста Алеся Мікалайчанкі. Але, паводле закону свабодных камунікацыяў, калі нехта не жадае тлумачыць свае ўчынкі, то за яго гэта зробяць іншыя.

Відавочна,што кватэраваньне ў будынку цуду мэнэджмэнту XX стагодзьдзя – карчмы McDonald's падзейнічала на арганізацыйную сткуктуру любімай народам радыёстанцыі ў самым станоўчым накірунку. Нагадайма некаторыя рысы таталітарна-эканамічнага монстра, народжанага з алхімічнага шлюбу фордаўскага канвэеру і гулагаўскага прынцыпу «арбайт махт фрай»:

– У McDonald's супрацоўнікаў набіраюць на кароткі тэрмін і звальняюць без абвяшчэньня прычыны.

– Супрацоўнікі McDonald's павінны ўсьміхацца адзін аднаму і гаварыць шэфу «ты», але кожны піша на сваіх калегаў даносы, якія здае ў канцы рабочага дня шэфу, такім чынам набірае свае «балы».

– Завышаная колькасьць тлушчу ў біг-маках абумоўленая часам, неабходным для смажаньня катлеты, а не патрэбамі спажыўца. Тэндэнцыйнасьць падачы смажаных навінаў на радыё «Свабода» таксама выключае натуральную патрэбу звычайных грамадзянаў у аб'ектыўнай інфармацыі і накіраваная на тых, хто падсеў на ідэалягічную іголку, як дзеці западаюць на біг-мак з цацкамі.

Такім чынам «Свабода» як на радыёстанцыі, гэтак і ў нэалібэральных карпарацыях мае адно значэньне: свабоду галоўнага мэнэджэра звальняць і набіраць кадры, для якіх, у сваю чаргу, свабода – гэта свабода быць звольненым ●

**Зьбігнеў Бжэзінскі**

**P.S.** Калі мы ў нечым памыліліся – прабачце, бо мы мелі інфармацыю толькі з аднаго боку.

## МіжнарОдная панарАма

### Рукі прэч!

На мінулым тыдні расейская буржуазная дэмакратыя ізноў паказала ўсяму сьвету сваю ўродлівую пысу: з гневам і болем даведаліся простыя беларусы пра перасьлед лідэра Сібірскай канфэдэрацыі працы Уладзіміра Вараб'ёва расейскімі капіталістычнымі ўладамі. Уладзімір добра вядомы сваёй дзейнасьцю па кансалідацыі працоўнага руху Кузбасу і абароне правоў працоўных Заўральля. Таму менавіта яго таварышы вылучылі для ўдзелу ў Эўрапейскім сацыяльным форуме, які праходзіў у лістападзе ў італьянскім горадзе Флярэнцыя.
Уладзімір годна прадставіў Расею на міжнародным сходзе антыглябалістаў: праўдзіва распавядаў дэлегатам зь іншых краінаў пра цяжкія ўмовы працы і барацьбу расейскага пралетарыяту за сацыяльную справядлівасьць. Менавіта гэта і выклікала зьвярыную злобу расейскіх уладаў.
Пасьля вяртаньня Ўладзіміра ў родны Анжэра-Суджанск мясцовая прэса па ўказцы Кемераўскага губэрнатара Амана Тулеева разьвязала кампанію па шальмаваньню прафсаюзнага лідэра. Прадажныя акулы пяра вылілі на барацьбіта за правы працоўных не адзін жбан памыяў. Але Тулееўская кліка не спынілася і на гэтым: Уладзіміра выклікалі ў ФСБ і цэлы дзень пратрымалі ў Анжэра-Суджанскай ахранцы. ФСБшныя гарылы спрабавалі абвінаваціць Вараб'ёва амаль што не ў шпіянажы. Толькі страх міжнароднага рэзанансу і масавых акцыяў пратэсту працоўных Кузбасу прымусілі душыцеляў свабоды выпусціць Уладзіміра.

*Працоўны калектыў газэты* Навінкі *заклікае ўсіх людзей добрай волі выявіць сваю салідарнасьць з Уладзімірам Вараб'ёвым. Дасылайце лісты падтрымкі Уладзіміру на адрас* straiker_2002@mail.ru *ці* smmorpwr@mtu-net.ru, *а гнеўныя лісты пратэсту накіроўвайце на адрас Адміністрацыі губэрнатара Амана Тулеева* postmaster@ako.kemerovo.su *і адміністрацыі Анжера-Суджанску* adm@asf.ru.

# Наркаманы ў законе,

## Або парлямэнцкая дзейнасьць пад кайфам

Нялёгкае жыцьцё ў далёкай Грузіі. Заробкі не выплочваюцца, у хатах халадзіна, кошты растуць як на дражджах. Апазыцыя вінаваціць ува ўсім прэзыдэнта Шэварнадзэ. Шэварнадзэ, у сваю чаргу, вінаваціць Расею. Якая ж на самой справе прычына татальнай галечы ў некалі заможнай сонечнай рэспубліцы?
Калі прааналізаваць дзейнасьць грузінскага парлямэнту, усё становіцца зразумелым. Мы ўжо пісалі пра дэпутата-бандзюгана, які з кастэтам наперавес бегае па парлямэнту ды помсьціць сваім палітычным апанэнтам (гл. *Навінкі* №26). Але гэта яшчэ кветачкі. Калі верыць лідэру фракцыі «Агардзынэба» Джамалу Гогітыдзэ, ні многа ні мала 20 (дваццаць!) парлямэнтароў зьяўляюцца адпетымі наркаманамі. На парапанову таго ж Гогітыдзэ ўсе дэпутаты павінныя прайсьці адкрытае наркалягічнае тэставаньне. Падставай для такой меры стала інфармацыя бюро дзяржбясьпекі, якое і назапашыла кампрамат на законатворцаў.
Ужо зьявіліся і першыя праціўнікі антынаркатычнай ініцыятывы. Напрыклад, адзін зь сябраў фракцыі «Апхазэці» заявіў, што тэст на ўжываньне шыркі стане для яго асабістай абразай. Пакуль невядома, чым скончыцца наркатычны скандаль у Грузіі, але палітычны імідж краіне ён псуе добра.
А вам, спадары апазыцыянэры, наш парлямэнт не спадабаецца. Маўляў, «кішэнная палата». Лепш ужо нелегітымныя дэпутаты, чым легітымныя наркоты ●

**Доктар Хадоркін**




*У грузінскім парлямэнце ідуць бурныя дэбаты па прыняцьцю праекту бюджэту на 2003 год у другім чытаньні*

### Каменьчыкі для бацькі

За высокае прафэсійнае майстэрства, праяўленае пры выкананьньні дзяржаўнага заказу, групе супрацоўнікаў філіялу «Завод «Ювэлір» рэспубліканскага алмазаапрацоўваючага ўнітарнага прадпрыемства «Гомельскае вытворчае аб'яднаньне «Крышталь» аб'яўленая Падзяка прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Сярод узнагароджаных – дырэктар, эмальер, ювэліры-манціроўшчыкі і мастак прадпрыемства.
Чаму менавіта завод «Ювэлір»? Ці няма іншых прадпрыемстваў у Беларусі, якія выконваюць плян, напрыклад, МТЗ ці газэта *Наша Ніва*? Справа ў тым, што на дзяржаўных прадпрыемствах цяпер цэняцца ня тыя, хто вырабляе больш прадукцыі, якая прыносіць асноўны прыбытак, а той, хто вырабляе гэтак званыя «сувэніры» неабходныя для ўблажаньня высокапастаўленых гасьцей, ад якіх залежаць прыбытковыя для прадпрыемства заказы. Такім «цэхам» у маштабе краіны і стаў гомельскі завод «Ювелір». Што зрабілі ювэліры – кальe, завушніцы або пярсьцёнак для бацькі – засталося нявысьветленым. Але калі, напрыклад, бабруйскія шыньнікі пачнуць вытворчасьць эксклюзіўных падарачных гумавых лялек для замежных гасьцей, то магчыма і яны дачакаюцца прэзыдэнцкай Падзякі ●

**Жан-Жак Фабэржэ**



## Адкос па-кыргыску – хабар па-беларуску




Уразгары прызыўная кампанія ва Ўзброеныя сілы краіны. Тысячы прызыўнікоў папоўняць шэрагі ваеннаслужачых, каб выканаць свой ганаровы абавязак. Аднак вядома, што ня ўсе маладыя грамадзяне нашай краіны дасягнулі таго вышэйшага стану сьвядомасьці, каб аддаць айчыне свой «сьвяшчэнны доўг». Ёсьць яшчэ асобныя ўхілісты, якія спрабуюць закасіць з рызыкай для здароўя, ці заплаціць хабар ваенкому. Такія адшчапенцы, зрэшты, ёсьць у любой краіне.
У Кыргыстане, напрыклад, каб раз і назаўжды пакончыць з праблемай хабарніцтва, парлямэнтары вырашылі легалізаваць інстытут адкупу ад войска, прыняўшы папраўку ў закон «Аб усеагульным вайсковым абавязку». Маладыя людзі прызыўнога ўзросту атрымалі магчымасьць ня несьці вайсковую службу, калі заплацяць у дзяржаўную казну 25 000 сомаў (што крыху больш за 500 даляраў), бо менавіта столькі трацiцца ў год на кожнага ваеннаслужачага тэрміновай службы.
Паводле самых сьціплых падлікаў прыняцьце новай папраўкі дазволіць кыргыскім вайскоўцам крута падняцца на бабкі і павысіць матэрыяльна-тэхнічнае забесьпячэньне арміі, бо з 12 прызыўнікоў служыць сёньня ідзе толькі адзін.
Можна толькі вітаць падобны пачын кыргыскіх парлямэнтароў. Варта б і нашым слугам народу не карпець над новым законам аб альтэрнатыўнай службе, а падумаць пра пераймаьне досьведу ў брацкага Кыргыстану. А пакуль нашы беларускія «касінеры», якія ня маюць магчымасьці легальна ці нелегальна адкупіцца, вымушаныя рабіць як той вожык з анэкдоту: «Як каўбасіць, а касіць трэба!» ●

**Іван Ахлабысьцін**

# 6 кандыдатаў у прэзыдэнты ад АГП

**Надыйшоў час купіць Лукашэнку абанэмэнт у залю бодзібілдынгу – у яго зьявіліся канкурэнты. Прынамсі так паведамляе камандзір беларускіх лібэралаў А.Лябедзька, які заявіў, што ў АГП ёсьць есть «5-6 очень серьезных людей, которые способны составить конкуренцию Александру Лукашенко на президентских выборах». Хто ж гэтыя шэсьць малойцаў, якія адолеюць монстра аўтарытарызму пакуль не паведамляецца. А каб вызначыць зь іх самага годнага, плянуецца правесьці сярод кандыдатаў у кандыдаты папярэднія выбары. На гэтых «праймэрыз» і будзе вядома, хто ж стане магільшчыкам дыктатуры. Хто ж гэты Ільля Мурамец?** ●








# МОЙ ЛЮБІ

Здавалася б, за 7 гадоў легістлатуры Лукашэнкі мы даведаліся ўсё аб крыніцах фэномэну ўлады ППРБ. Як неаднаразова паведамлялі нам апазыцыйныя эркюлі пуаро, бацька кіруе, дзякуючы «крышы» цыганскіх баронаў, недагляду псыхолягаў, даўгім шчупальцам ФСБ, золату падпольнага абкаму КПСС, дэфіцыту НГО на душу насельніцтва і г.д. Аднак аказалася, што ў нашых ведах аб паднаготнай прэзыдэнта існуе значны прабел. Толькі сёньня лукашэнказнаўцы пачалі задавацца пытаньнем аб стаўленьні Лукашэнкі да гумару. Падставай для палемікі стаў нядаўні выступ прэзыдэнта перад студэнтамі «нархоза». Падчас выступу прэзыдэнту НАК даслалі цыдулку з залі: «Ці зьбіраецеся вы выстаўляць сваю кандыдатуру на наступных прэзыдэнцкіх выбарах». Аўдыторыя адрэагавала на тэкст запіскі рогатам і аплядысмэнтамі. Адаз Лукашэнкі быў наступным: «Понимая и оценивая ваши бурные аплодисменты как одобрение, обязательно буду».

Як разумець гэты пасаж? Як звычайны бяскрыўдны жарт, або як рэальныя панты выставіць сваю кандыдатуру на наступных выбарах? Вялікі палітычны хірамант А.Фядута ў перадачы «Намедні» сьцьвярджае, што прэзыдэнту РБ ўвогуле не ўласьцівае пачуцьцё гумару. Беларуская апазыцыя малюе бацьку як нейкага сухара, які, запёршыся ў сваёй рэзыдэнцыі ад сьцямненьня да разьвідненьня складае пляны кіднэпінгу чарговага журналіста.

У такую лухту й паверыць цяжка. Ну пагадзіцеся, хіба можна так проста ўявіць, што Лукашэнка ніколі не хадзіў у цырк і не трымаўся за жывоцік ад клоўнскіх выкрутасаў? А што калі гумар-такі ўласцівы гаранту? У такім разе мы маем справу з самым геніяльным палітыкам сучаснасьці, які здолеў прыраўняць сьмех да штыка. Трэба аддаць Лукашэнку належнае: ніводны комік (тэатар «Хрыстафор», «Вожык» і КВН разам узятыя) гэтак не ўзбагаціў беларускі гумар як ён. Рэгулярна даючы журналістам і публіцы падставу для сьмеху (прыгадаем хаця б вядомыя ўсёй краіне лукашызм пра чалавечыя яйкі, або інтэрмэдыю з лыжамі на праспэкце), прэзыдэнт час ад часу стварае вакол сябе атмасфэру камічнага відовішча (цырку, балагану, вар'етэ) , у якім ён сьвядома абраў сабе функцыю клоўна.

Не сьпяшайцеся ржаць, пачуўшы слова «клоўн». Сёньня вобраз «клоўна» менш за ўсё выклікае асацыяцыі з рыжым парыком, парай вялікіх ботаў і ўлюлюканьнем «А вось і я!». Пад клоўнскім грымам, пераходзячы на жаргон піаршчыкаў, хаваецца філіграннае веданьне эмоцыяў натоўпу. Выклікаўшы ў публікі праз сьмех пазытыўныя эмоцыі , можна лёгка паланіць і весьці за сабой касякі пілігрымаў. О, клоўн ведае сваю справу! Клоўн (комік) у 21 стагодзьдзі гэта не проста аб'ект сьмеху, а наадварот – палітычны суб'ект. Дастакова прыгадаць які ўплыў у грамадзтвах мелі і маюць Чаплін, Нікулін, Карандаш, Вудзі Ален... Сьмех, а не паліцэйскія дубінкі – вось тайная зброя Лукашэнкі. Таму нядзіўна, што ў інструмэнтарыі славутых каралёў савецкага манежу можна знайсьці шмат ноў-хаў беларускай паліт-клаўнады.






**Выкарыстаньне прыёмаў Юрыя Нікуліна. Нікулін (Балбес) працягвае традыцыі вядомага клоўнскага пэрсанажа Рыжага (у тэатры дельартэ Арлекіна), квінтэсэнцыя якога – на першы погляд трывіяльнае гіпэрбалізаванае глупства. Эксцэнтрычныя ўчынкі Нікуліна і ППРБ выклікаюць у глядачоў (чытай электарата) пачуцьцё сьмеху і ілюзію асабістай інтэлектуальнай перавагі. Прыгадаем яго бліскучыя ролі ў фільмах Аперацыя Ы або Каўказская палоніца. Каб зноў і зноў адчуць гэты прыемны эмацыйны прыход, глядач гатовы запоем глядзець сэлектарныя нарады. Пры гэтым яму глыбока фіялетавыя мітынгі дэмакратаў зь іх сталымі наведнікамі – завумнымі тэхнакратамі і чокнутымі на мове інтэлігентамі.**



**Прыём Алега Папова. Клоўн Алег Папоў - просты хлопец, які здольны падкалоць, аднак па сутнасьці ён добразычлівы да ўсіх. Эстытычная формула Папова –абсалютная непасрэднасьць Іванушкі-дурачка. Непасрэднасьць увесь час прыводзіць героя ў камічныя сытуацыі, і яна ж яго выратоўвае. Вось тыповая для Папова пантаніма «Прамень», апісаная С.Макаравым у кнізе «Советская клоунада». «Цирк погружался в полумрак. Прожектор, как луч солнца, пробивал серую мглу, нависшую над манежем. В центре ковра высвечивался яркий кружок. К нему приближался Олег Попов. Блаженно улыбаясь, клоун усаживался в середину яркого кружка и не спеша доставал из принесенной с собой корзинки хлеб, затем бутылку с кефиром. Неожиданно солнечный луч вздрагивал и отползал в сторону, оставляя комика в темноте. Попов, обнаружив пропажу луча, направлялся за ним и силой возвращал на прежнее место. Но солнечный круг вновь убегал от клоуна, не желая ему подчиняться. Желая вымолить прощение, клоун нежно гладил обиженный луч, как бы уговаривая его вернуться на старое место. Солнечный круг позволял комику возвратить его туда, где он находился вначале. Клоун, обхватив двумя руками луч света, аккуратно нес его в центр манежа и опускал на ковер» Прэзыдент таксама робіць смешныя рэчы (гл. фота), аднак настолькі непасрэдна і нежна, што выклікае ў душы дабрату і павагу.**

# МЫ КЛОЎН

Э-гэй, тра-ля-ля, я каждае ўтра пературахіваю свой парламент і знаю, хто ўрот, а хто ня ўрот.

Галасуйце за партыю АГП – партыю рынкавата манэтарызму! Чаму вы не сьмяецеся?!

Я сьпашаюся пасьмяяцца з прэзыдэнта, інакш я вымушан быў бы заплакаць ад нудоты апазыцыі.



Праца вартая дрэсыроўшчыка кошак Юрыя Куклачова. Клоўнская маска Куклачова – «мужичок себе на уме, простодушный и хитроватый, ловкий и находчивый, надежный и основательный» ( Энцыкляпэдыя Свет цирка). Філязофія Юрыя Куклачева –гэта філязофія адносінаў да сваіх чацьвераногіх памочнікаў, да жывёлаў: спачатку Юрый, як сьцьвярджае АіФ, шчыміць катам яйкі на рэпэтыцыях, каб потым для пацехі публікі браты меншыя рабілі любы капрыз свайго дрэсыроўшчыка. «Его (Куклачова) кошки стоят на передних и задних лапах, танцуют, прыгают с большой высоты на грудь артиста, раскачиваются под куполом, возят тележку, забираются по ступенькам лестницы-стремянки, легко преодолевают барьеры, исполняют боковые кульбиты и проделывают многое другое. Складывается впечатление, что они поступают так, а не иначе по своей инициативе». (Свет цирка). Прыкладна гэтак жа працуе і беларускі дзяржаўны аппарат. Чыноўнікі натуральна не выконваюць бакавыя кульбіты і не забіраюцца па лесьвицы пад купал цырку, каб адтуль скакаць на грудзі прэзыдэнта, аднак з-за страху перад гаспадаром робяць шмат іншых цікавых трукаў: удзельнічаюць у акцыях грамадзянскай абароны, або усе як адзін выходзяць на лыжныя старты. Глядзіш на гэта, і аднaчасова і сьмешна, і цікава, як гэта так здорава можна натрэніраваць людзей.

Як бачым, быць беларускім прэзыдэнтам – гэта вам не халтура Задорнава, Аншлага або «Сьмехапанарамы» Петрасяна. Трэба зазначыць, што камічны талент прэзыдэнта праяўляецца ня толькі ў росьце кантроля масавай псіхалёгіі. Ён мае для ўсяго грамадзтва вялікі пазытыўны аспэкт. Каб патлумацыць гэты тэзыс, варта прыгадаць любімую Нікуліным навэлу амэрыканскага фантаста Эрыка Фрэнка Расэла.
Два разы зямляне дасылалі экспэдыцыі ў далёкую галактыку. Амаль 4 гады павінны былі яны праляцець, каб вярнуца на Зямлю. Людзі не вытрымвалі псіхічнай нагрузкі, пачыналіся разборкі, якія заканчваліся забойствамі. Трэці карабель выканаў заданьне і ляціць да Зямлі. Камандзір карабля падводзіць вынікі і прыходзіць да высновы, што адзін зь сябраў экіпажу быў дзіваком. Увесь палёт гэты фрык забаўляў каманду сваімі прыколамі, пантанімамі і т.д. Калі карабель прыляцеў на родную плянэту, высьветлілася, што гэтым недацёпам быў вядомы клоўн. Яго наўмысна заслалі у палёт, каб ён быў кшталту змазкай для напружаных і ашалелых ад палёту астранаўтаў. Толькі дзякуючы гэтай змазцы экіпаж вытрымаў усе псыхічныя цяжкасьці і вярнуўся на зямлю. Беларусь у нейкім сэнсе таксама касьмічны карабель, які вылецеў з станцыі камунізм і, гэтак і не дабраўшыся да запаветнай станцыі «рынкавая дэмакратыя», згубіўся у космасе. Сябраў экіпажу час ад часу ахоплівае дэпрэсія і псыхоз. Калі б ня наш прыкольны прэзыдэнт, яго ужымкі і пэрлы, беларусы мелі б больш прычанаў пачыкаць адзін аднаго ў ражы грамадзянскай вайны. Толькі шут і скамарох здольны аздаравіць наш духоўны сьвет на трассе да светлага рынкавага будучага. Дык няхай жыве дыктатура паяцаў! Біс! Брава!



Прыём з арсэнала клоўна смутку Леаніда Энгібарава. Вось як піша пра Энгібарава энцыкляпэдыя «Свет цирка». «Нежен и трагичен, оптимистичен и грустен, пластичен до невероятности, и в каждом жесте, репризе – философский подтекст: рассказ об одиночестве в толпе, о непонимании одним человеком другого, о поисках своего «я». Напрыклад, вядомая рэпрыза Энгібарава «Бокс». Клоўн падпісваецца быць спарынг-партнэрам агромнага вярзілы. Вярзіла мочыць клоўна, выклікаючы ў партэры аднaчасова сьмех і спачуваньне. Раптам нейкая дзяўчынка кідае клоўну кветку. Пабачыўшы яе, ён кідаецца на праціўніка і пасылае яго ў накаўт. Энгібараўскую рэпрызу бацька абыграў на свой лад. Ён выклікае на бой амэрыканскі імпэрыялізм. Двубой Лукашэнкі з Бушам выглядае сьмешна і трагічна. Хіба можа краіна бусьлікаў цягацца з заакіянскім монстрам? Аднак чалавечыя сымпатыі на баку хілага беларускага лідэра, а ня грознага Буша-юніёра.

# Ход канём супраць хуліганізму

## *Хутка моладзь будзе фанацець па іншых відах спорту*




Апрані фаната ў прыкід спартовага хулігана. Калі сёньня ящчэ модна фанацець па футболу, то заўтра гэта будзе поўным анахранізмам. Нашмат круцей быць шахматнымі «хулз»

Спартовая сытуацыя ў нашай краіне апошнім часам ня можа не наводзіць на аптымістычныя думкі – куды ні кінь вокам – усё ў нас выдатна, усюды галавакружэньне ад посьпехаў. І ў хакеі нашыя хлопцы, што быкі-вытворцы, топчуць сусьветных грандаў, і жаночая гандбольная зборная выйшла ў фінал чэмпіянату кантынента, — усё дзякуючы мудраму кіраўніцтву дарагога Аляксандра Рыгоравіча, які і для працаўнікоў клюшкі ды шайбы знойдзе суровае, але патрэбнае слова, і высокіх жэншчын-гандбалістак навучыць правільнаму падыходу да гульні. Тут ужо грэх падначаленым зь Белтэлерадыёкампаніі ізноў аблажацца, як было з апошняй Алімпіядай і футбольным чэмпіянатам, таму яны загадзя дамовіліся са сквапнымі заходнімі тэлемагнатамі аб прадастаўленьні Беларусі выключнага права на трансляцыю на родных абшарах Чэмпіянату Эўропы па гандболу. І цяпер практычна ніхто не сумняецца ў дасягненьні нашымі гандбалістачкамі самых высокіх вынікаў.

Толькі вось ня самыя вялікія дасягненьні маем мы ў футболе, і тое толькі з-за таго, што Аляксандар Рыгоравіч не пасьпеў шчыльна заняцца гэтай праблемай: ёсьць яшчэ ў нас і недабудаваныя футбольныя манежы, і перадузятае судзейства... І гэта кранае за жывое нашых культурных футбольных балельшчыкаў, якія вымушаныя сілай і крывёй даказваць, што нашыя футбалісты – самыя лепшыя. Вось толькі зажратыя эмісары з дысцыплінарнай камісіі Эўрапейскага футбольнага Зьвязу не разумеюць патрыятызму нашых шчырых фанатаў, і таму родная Фэдэрацыя футболу вымушаная будзе забашляць Эўропе 15 тысячаў швайцарскіх франкаў «за хуліганства» беларускіх заўзятараў футболу падчас апошняга адборачнага матчу чэмпіянату Эўропы са зборнай Чэхіі ў горадзе Тэпліцэ. Нават разуменьне тэндэнцыйнасьці гэткага рашэньня не пакідае Беларусі выбару, і прымушае ўрад ня толькі задумацца аб тым, як сплаціць пазыку, але й аб выхаваньні больш талерантных адносінаў у патрыятычна натроенай моладзі.

Магчыма, менавіта з гэтай мэтай у віцебскіх дзіцячых калёніях праводзіцца турнір па адной з самых спакойных гульняў – шахматах. Можа дзеля таго, каб пасьля вызваленьня маладыя людзі больш тактычна прадумвалі свае хады ў барацьбе з сусьветным злом ды варожымі фанатамі, не падстаўляючы родныя Фэдэрацыі ●

**Кірсан Ілюмжынаў,**
спартовы аматар

## Дваццаты подзьвіг разьведчыка

На працягу амаль што 40 гадоў на экраны выходзіць кінасэрыял пра агента 007 па кніжцы Я.Флемінга. На днях выходзіць ужо 20-я сэрыя прыгодаў ангельскага Штырліца пад красамоўнай назвай «Памры, але ня зараз». На жаль, супэрагент, лётаючы за плястмасавымі злодзеямі, а калі і за проста троху дзьвінутымі па фазе людзьмі, прамаргаў узьлёт сапраўднага Доктара Зла сучаснага сьвету. Пераканайцеся самі.

1. «Доктар Ноў», 1962. Забіты абаронца птушак, фізік-лірык Dr. No, які знайшоў недахопы ў касмічнай праграме ЗША. Тым часам Усаме (5 гадоў) бацькі падаравалі цацку Мікі-Маўса.
2. «З Расеі з каханьнем», 1963. Картэль «Спэктар», каб помсьціць Бонду за Dr. No падманьвае шпіёна топ-маделямі і нейкай расейскай шыфравальнай машынай. Усама гарэзіць у суседнім двары.
3. «Голдфінгер», 1964. Пэрформэр некалькі разоў на год абмазвае бабу залатой фарбай. Забіты за жаданьне правесьці паказ мадэляў у Форт-Ноксе. А Усама пайшоў у школу.
4. «Шаравая маланка», 1965. Аматары алмазаў ювэліры-самавукі зьнішчаныя Бондам за бартэрныя апэрацыі: намагаліся чэсна абмяняць бамбардзіроўшчык «Вулкан» на біжутэрыю. Між тым Усаме стукнула 8 гадоў.
5. «Жывеш толькі два разы», 1967. У гэтай стужцы вэтэран вайны Блофэльд з НГО «Спэктар» асвойвае стыкоўку двух караблёў на арбіце Зямлі. За што атрымаў маральную траўму. Усама прадаў цацку Мікі-Маўса.
6. «На сакрэтнай службе Яе Вялікасьці», 1969. Мафіёзі заказвае Бонду вірусоляга Блофэльда. СНІДу магло ня быць. А наш Усама запісаўся ў лётны клюб.
7. «Дыямэнты назаўсёды», 1971. Скрадзеныя брылікі з шахтаў. Навошта – ніхто ня ведае. Але Блофэльд зноў злавіў хук ад Бонда. Усама атрымаў адукацыю.
8. «Жыві і дай памерці іншым», 1973. На наркатычнай ярмарцы павінна адбыцца зьдзелка на 1 млд. баксаў. Бонд гэта разьведаў, зьняў бабу зладзея-пакупніка і – усё ОК. Усама рыхтуецца да іспытаў у ВНУ.
9. «Чалавек з залатым пісталетам», 1974. Інвалід дзяцінства, вынаходнік альтэрнатыўнай энэргіі прафэсар Скарамангі зьнішчаны Бондам за сяброўскі падарунак (залатая куля). Усама – студэнт будаўнічага факультэту.




10. «Шпіён, які мяне пакахаў», 1977. Вялікі ўдар па акіянаграфіі – прышылі рамантыка і сябра каманды Кусто. Усама піша шпаргалкі.
11. «Месяцовы гоншчык», 1979. Х'юга Дракс марыў аб міжкасьмічных падарожжах, аб гарадах на арбіце Зямлі. Замочаны агентам 007 толькі за мару. А Усама пражыгае жыцьцё ў Бэйруце.
12. «Толькі для тваіх вачэй», 1981. Бонд дабраўся да расейцаў .Усама набывае тур у Афган.
13. «Васьміножка», 1983. Беспрацоўе. Бонд забіў футуроляга генэрала Арлова. Усама бярэ ўрокі расейскай мовы ў палонных савецкіх салдат.
14. «Від на забойства», 1985. Забіты нейкі Макс Зорын, стваральнік мікрачыпаў. Заказ Microsoft? У той час Усама піша гранты ў ЦРУ.
15. «Іскры з вачэй», 1987. На туманным Альбіёне перабоі з газам. Забіты спэц па трубах – нейкі расейскі генэрал. Усама стварае таварыства з абмежаванай адказнасьцю «Аль Каіда».
16. «Ліцэнзія на забойства», 1989. Крывавая лазьня, разьюшаны Бонд помсьціць наркабарону за сьмерць сябра. Усама даведваецца аб вывадзе СА з Афгану.
17. «Залатое вока», 1995. Супэрзброя можа зьнішчыць горад. Але для Бонда цікавая толькі ракавая прыгажуня Ксенія Анатоп. А Усама падклаў бомбу пад амэрыканскі джып.
18. «Заўтра ніколі не памрэ», 1997. Забіты мэдыямагнат .А Усамам расстраляныя турысты ў Эгіпце.
19. «Не хапае цэлага сьвету», 1999. Бондам быў забіты унікум – нейкі Рэнар – толькі за тое, што ён ня чуў фізічных боляў. Жудасная сьмерць. Усама хаваецца ад ЦРУ.
20. «Памры, але ня зараз», 2002. Бонд уцёк з турмы. І пасьля правакацыі на мяжы Паўночнай і Паўднёвай Карэяў з хуліганскімі намерамі лётае па сьвеце. А Усама узарваў дыскатэку на Балі, атэль у Кеніі, танкер у Адэне...

## *Куток спажыўца*

# Сьветлым імем Кока-колы




***Сымбаль сучаснага спажывецкага грамадзтва «Кока-кола лёгкая». Як і ў «Мальбара лёгкіх», утрыманьне нікатыну не перавышае конскай дозы.***

Усе памятаюць стары добры жарт: «Чаму на цыгарэтах пішуць – «лёгкія», а на лікёра-гарэлачных вырабах ня значыцца папярэджаньне – «ныркі ці печань»? Але цяпер гэткія жарты будуць не да месца, бо адна з найбольш сур'ёзных сусьветных кампаніяў – Кока-Кола – выпускае на беларускі рынак «Кока-колу Лайт» уласнай вытворчасьці. Да гэтага часу мы травіліся расейскай падробкай гэтага шляхетнага напою, але цяпер з гэтым пакончана, і кампанія больш чым са 100-гадовай гісторыяй выходзіць на прагны рынак краіны з адным з найбольш сваіх папулярных напояў.

Да гэтага завісьнікі ганьбілі кока-колу за тое, што з пачатку сваёй гісторыі кока-кола ўжывалася як лекавы прэпарат, энэргетычны напой, і ўтрымлівала да 20% цукру і 42 кілякалёрыі – як бутэлька нашай «Аліварыі-Народнай», — і нібыта выклікала патлусьценьне цэлай амэрыканскай нацыі. Цяпер жа кожны, хто ўжывае кока-колу лайт можа адчуць тонкі смак цукрыдаў, але зусім бяз цукру, які пераконвае вас, што ў бутэльцы гэтага цуду ўсяго 0,3 ккал. Гэнэтычна-мадэляваныя прадукты, прысутнасьць якіх была нядаўна пафасна даказаная Грынпісам, насамрэч дадаюць напою арыгінальнасьць і момант нечаканасьці, а зусім не магчымасьць захварэць нечым анкалягічным. Кафеін і фэнілкетанурын, якія прысутнічаюць у коле ў вялікай колькасьці, вельмі добра стымулююць разумовую дзейнасьць і актыўнасьць – да 7 гадзін. А слабы раствор ортафосфарнай кіслаты ў кока-коле, што таксама выкарыстоўваецца для паліроўкі аўтамабіляў, хоць і растварае пасіху зубную амаль і ўсе слізістыя абалонкі, — затое выдатна ачышчае арганізм ад ўсяго непатрэбнага і слабога. Так што спажывайце на здароўе і беражыце фігуру ●

## Як адцягнуцца...

### Па-беларуску

Посьпех **выставы катастрофаў «Чэская паводка -2002»** у беларускай сталіцы на тле абразы, нанесенай нашаму прэзыдэнту гаваэлаўскай клікай, выглядае цалкам лягічна. Выстава «на злобу дня», пра якую *Навінкі* пісалі у мінулым нумары, працягвае адчыняць свае дзьверы штодня з **10.00 да 17.30 у Траецкім (музэй Багдановіча, побач з падземным піўняком).**

### Па-француску

Працягвае сваю працу занятны кінафэсьцік ***«Лябірынты пачуцьцяў: анталёгія францускага аўтарскага кіно.»***
Бяздарна праяпаўшы на мінулым тыдні кінапаказы «Каленкі Клер» і «Чарговае Хлусьні» (ў арыгінале) вы яшчэ можаце пасьпець на расейскі пераклад **«Хлусьні» (10.12)**, альбо на **дакумэнталістыку «Сьмецяры, падобныя да мяне»(11.12)**. Але і для нармальнага рабочага ў кінаклюбе прызапашаны сюрпрыз – стужка з мардабоем і **Бельмандой** у галоўнай ролі **(«Шалёны П'еро») паказваюць 9.12.** Месца усіх кінапаказаў – «Пабеда», пачатак – 19.00.

### Па-польску

Як заўсёды, **халяўныя польскія фільмы** на халяўнай польскай мове адбываюцца ў **малай залі Акадэміі Мастацтваў а 19:00** па серадах. **11 сьнежня** сьпяшайцеся ўбачыць **«Далёка ад сябе»** Фэлікса Фалька.

### Па-інтэрнэшнлу

***Яшчэ адін фэст – «4х4»*** (канцэпцыя якога да дэбілізму незразумелая – апрэч таго, што ў чатырох кінатэатрах адначасова йдуць 4 стужкі, прадстаўленыя фільмы нічога ня злучвае ) – адбываецца у кінатэатрах «Пабеда», «Мір», «Бярэсьце», «Аўрора». Ягоны расклад наступны:
**«ONLINE: сэкс, каханьне, інтэрнэт» (М-6.12, Б-7.12, А-8.12)** –зьбітая тэма пра віртуальны трахадром без аніякіх дзеяў у рэале;
**«Закаханая Куіні»(П-6.12, М-7.12, Б-8.12)** – яшчэ адна тыпова галівудзкая замарочка пра маладую дзеўку, якая ад няма чаго рабіць трахае састарэлага копа;
**«Каханкі» (П-8.12, Б-6.12, А-7.12)** – французскі погляд на каханьне. Замест галівудзкага трахадрому мы назіраем тыповы багемны раман паміж дзяўчынай з кніжнай лаўкі і «нелегальным» імігрантам зь Югаславіі. Ле Пэн смокча ў бясьсільнай злобе...;
**«Дрэнны пацан»(П-7.12, М-8.12, А-6.12)** – каханьне па паўднёвакарэйску. У той час, як на поўначы дзеці жруць траву, у краіне Самсунга з Голдстарам ідзе звычайны здымачны дзень...

**Санітар,**
культурны футуроляг

**P.S.** *Калі вы жадаеце, каб інфармацыя пра нейкую культурную, а лепей — антыкультурную імпрэзу патрапіла у нашую рубрыку, своечасова зьлівайце анонсы на* **sanitar@tut.by**.

# Беларускі рэнэсанс

## Непуцёвыя нататкі пра шляхцюкоў і асьветнікаў




Калі ў краіне няма ідэалягічнага адзінадумства, кожны нацягвае гісторыю, як коўдру на свой бок. Пратэстанцкі пастар Станіслаў Акіньчыц лічыць, што беларускае культурнае адраджэньне і росквіт дзяржаўнасьці ў ВКЛ быў магчымы менавіта дзякуючы пратэстантам – лютэранам, чэскім братам і, перадусім, кальвіністам. Бо кальвіністам быў князь Радзівіл Чорны. У пратэстанты запісаны і выдавец Біблії Ф.Скарына і ўвогуле Вялікае Княства названае ў кніжцы «кальвінісцкай дзяржавай». Чым жа быў гэты «залаты век» для беларускай гісторыі? Было выдадзена некалькі кніжак кірылічным шрыфтам. Тут Акіньчыц ня скваліцца на дыфірамбы Буднаму, Цяпінскаму і Скарыне. Але крыху пазьней, на стар.71, ён жа піша: «жывая размоўная мова жыхароў Вялікага Княства была падобная да польскай...», таму Радзівіл і выдаў Біблію ў польскім перакладзе. Тут трэба сказаць, на гэты час быў ужо сфармаваны зручны да чытаньня польскі друкарскі шрыфт, а стараславянская грамата патрабавала пэўнай філялягічнай падрыхтоўкі.
Расповед пра заснавальніка рэфармаванай царквы Жана Кальвіна ў інтэрпрэтацыі аўтара ператвараецца ў пропаведзь цьвярозасьці: праз тры гады пасьля пераезду Кальвіна ў Жэнэву зачыніўся апошні шынок, дзе прадавалі віно, а гарадзкая басота ператварылася ў банкіраў, майстроў гадзіньнікаў і друкароў.




Сярэднявечныя шкаляры штудзіруюць першыя друкаваныя кнігі Васіля Цяпінскага, Францыска Скарыны і Сымона Буднага

Страшна сабе ўявіць, што чакала бы Беларусь, калі б перамаглі гэтыя ваяўнічыя абстынэнты! Аптымісты лічаць, што менавіта тут паўстала б «другая Швайцарыя», мяркуючы паводле заганнага сылягізму:
а) У Швайцарыі шмат пратэстантаў і банкаў;
б) Калі б у Беларусі было шмат пратэстантаў, тут таксама было б шмат банкаў, швайцарскага сыру і гадзіньнікаў.
Але пляны рэфарматараў праваліліся: Радзівіл Чорны памёр, і ягоны сын Радзівіл Сіротка хацеў даць 5 000 залатовак, каб выкупіць наклад ератычнай Біблії і спаліць. Краіна пераходзіла на ўсеагульнае спажываньне «Крамбамболі» (якое зрэшты й не спынялася) і на лацінска-польскі каталіцызм (бо модны) ●

**Андрэй Баболя**

## Рэформа

### БДУ – ні гугу

Апошнія падзеі ў сфэры адукацыі прама ўказваюць на хуткія рэформы і яшчэ большае зьмяненьне статусу БДУ як галоўнага ўнівэрсытэту краіны. 29 лістапада ў флагмана ўнівэраў Беларусі, нібыта ў якой-небудзь мінікраіны, афіцыйна зьявіліся дзяржаўныя сымбалі – герб, сьцяг і гімн. Аднак узьнікае шэраг пытаньняў да новай унівэрсытэцкай атрыбутыкі. Той, хто бачыў новы герб, які ўжо даўно вісіць на БДУ на плошчы Незалежнасьці, адразу скажа, што ён азначае. Стылізаваная папараць-кветка, якую мы бачым у цэнтры, можа сымбалізаваць толькі бясплоднасьць пошукаў ведаў у гэтай навучальнай установе, а сіне-срэбны фон – несапраўдную і непатрэбную напышчанасьць. У сувязі з гэтым жа варта ўспомніць зьняцьцё з пасады рэктара БДУ Казуліна за, як сказаў прэзыдэнт, «неналежнае выкананьне сваіх абавязкаў» па забесьпячэньні дабразычлівых адносінаў студэнтаў да ўлады і асабіста прэзыдэнта. Канчаткова БДУ згубіць сваю фанабэрыстаць пасьля рэформы, што пройдзе ў 2003 годзе, падчас якой ва ўсіх навучальных установах краіны будзе ўведзеная 10-бальная сыстэма ацэнкі ведаў абітурыентаў, а ня толькі на падвопытным журфаку і ў школах, як было да апошняга часу. Вось тады мы і паглядзім, як пры роўных умовах, з прыкладна аднолькавым фінансаваньнем і мэтавым наборам разьвернуцца ў поўную сілу ўнівэрсытэты і інстытуты краіны, а гліняны калос БДУ складзецца, як картачны домік.

**Даніэль Кон-Бэндыт**

## Сусьлікі і нэкрафілы

Выйшла ў сьвет у тым самым выдаўніцтве Ігара Логвінава кніжка Зьміцера Вішнёва «пра сусьлікаў»... Ды пра яе ўжо пісалі, усе каму не лянота пісалі. Сяргей Астраўцоў на старонках апошняга нумару калісьці мяцежнай *Крыніцы* абазваў аўтара нэкрарэалітстычных дасьледваньняў «латэнтным гомікам», а Навум Гальпяровіч у *ЛіМе* – старэючым хлопчыкам. Адам Глёбус у *Нашай Ніве* і таго горш – «непрыгожай цёткай, якая баіцца пастарэць». Таму множыць колькасьць мэтафарыстычных азначэньняў да імя «Вішнёў» бяз пэўнай патрэбы няма чаго. Варта зьвярнуць увагу на наступную акалічнасьць: рэкляма *Навінак* у кніжцы, зробленая як і ўсё па-вішнёўску. «*У* Навінках *табарыліся самыя адыёзныя асобы... палілі гашыш і катавалі сусьлікаў...*» Згадзіцеся, з такой рэклямай газэта аўтаматычна пазбаўляецца пэўнай групы сваіх чытачоў – стрэйтэджаў і сяброў жывёл, а гэта непажадальна.




Безумоўна, мы разумеем, што Дзіма хацеў як лепей і яго правінцыйна-пэтэвэшныя мазгі не маглі ўявіць сабе больш «багемнага» спосабу праводзіць час, як азначаныя вышэй працэдуры. Але ўявіце сабе, ува што ператварылася б «улюбёная газэта беларускіх інтэлектуалаў», калі б тут хаця б паўдня папалілі якую шмаль – чад, смурод, сусьлікі! Проста жах. Таму ў пасадзе агента па рэкляме газэты *Навінкі* Вішнёву, як ні шкада, было адмоўлена і ён так і застаўся копірайтэрам нечытальных раманаў і маляром карцін, якія ніхто не купляе ●

# Бёзьнік «стукачоў»-ударнікаў



Група барабаншчыкаў, якая больш актыўна куралесіць па Эўропах, чым у сябе дома, з 1994 года штогод 27 лістапада а 9 вечара адзначае дзень народзінаў свайго калектыва пад мастом цераз Сьвіслач. Дзеяньне працягваецца ад паўгадзіны да гадзіны і звычайна перарывалася зьяўленьнем службовай машыны з аматарамі аматараў экстрэмальнага адпачынку – бо музыкі ня проста гучна шумелі, але і палілі пачкі старых газэт (у мінулым годзе гэта была падшыўка *АіФ*). Цікавы спосаб папярэджваньня візыту нязваных гасьцей – на ўсіх сьцежках стаялі свае людзі з мабіламі, і «драм экстэсі» пасьпявалі пагрузіцца на машыну і зьехаць. Публіка задаволена разыходзілася... У гэтым годзе было ўсё, акрамя міліцыі. Яны не прыехалі! Проста зьнявага высокага мастацтва! Няўжо ў Беларусі таксама звужаецца сфэра забароненага, няўжо і ў нас можна ўсё? ●

**Рынга Стар,**
бубнач

# Вяртаньне блуднага дыпляматы

